# НАВІНКІ

9 - 16 студзеня 2003 №1(80) Кошт свабодны


НАВІНКІ TV

Праграма тэлебачаньня 13-19 студзеня 2003

# КВОЛЫЯ ПАДАРУНКІ

## пад бюджэтную елку

А гэтая слановая доза яму будзе ў самы раз!

Сілавыя ведамствы 7,7%

Мэдыцына 5,7%

Навука 2,3%

Прабухаўшы амаль месяц, Беларусь з хмяльной галавой уступае ў новы бюджэтны год. Не хвалюйцеся, гэты год падрыхтаваў нам ня менш сюрпрызаў, чым Дзед Мароз са Сьнягуркай. Як у гайдаеўскай «Каўкаскай палоньніцы» бюджэт быў падзелены ў залежнасьці ад ягонага ўсыпляльнага ўзьдзеяньня на галіны грамадзтва.

## Мясцовыя выбары 2003

Гульня для кандыдатаў у дэпутаты на стар. 6,11

## Калі пачнецца вайна з Іракам?

## Калі б Лукашэнка быў Чавэсам…

Раскрыцьцё інсынуацыяў апазыцыйных палітыкаў на стар.5

## THE MATRIX



*Навінкі* ня раз ужо падымалі тэму існаваньня ў краіне «чарнільнага» лобі, якое робіць капітал на людзкім горы, спайваючы грамадзянаў таннымі «віннымі напоямі». Справа ўжо настолькі сур'ёзная, што можна казаць аб існаваньні **пладова-ягаднай матрыцы**, якая кантралюе памкненьні й думкі значнай часткі грамадзтва. Надышоў час выбіраць: вырвацца з матрыцы ці застацца ў ёй назаўжды...

Фотакомікс на стар.16

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знамение», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №13. Тыраж 3000 экз. Нумар падпісаны да друку 9.01.2003г., а 00.01.


MATRIX


Жыў быў хакер-памойшчык па клічцы «Нэо». Гэтак яго звалі бабулькі-зборшчыцы картону, якія бачылі ў ім новага канкурэнта.


Час пагрузіцца ў віртуальную прастору
Гэты дзень пачынаўся для Нэо як заўжды. Збыўшы здабытыя крадзеныя каробкі, ён набыў запаветную пляшачку «шляхетнага» чарніла «Лоры чырвонае».


Ну што, расьпіваем? Ідзі за белым канём.
Во, ля, дапіўся! Белачка!
Раптам перад ім зьявілася нейкая жывёла. Спачатку ён нават падумаў, што гэта мент, аднак гэта быў абсалютна незнаёмы белы конь.


Наркалягічны цэнтар
"Белы конь"
д-р Сайкоў Д.В.
Пад знакам белага каня хавалася кантора па кадзіраванню.


Я чакаў цябе Нэо! Я выведу цябе з матрыцы. Вось два старарыкі – выбірай.
А можна, я вазьму два?
Ад выбару залежыў далейшы лёс Нэо. І ён не памыліўся.




Ты зразумеў, што тваёй рэальнасьці не існуе.
Існуе толькі пладова-ягадная матрыца, якая кантралюе ўсё. І ты выбраны, каб перамагчы яе!


Гэй, Сайфэр, плясьні-ка мне «Бела-Колы»
Прапаную тост: За новы сухі закон!
Нэо пазнаёмілі зь іншымі ўдзельнікамі антыматрычнага супраціву, якія не пілі нічога крапчэй за безалкагольную «Аліварыю».


На мове супраціўленьня гэта азначала, што яны зьбіраюцца наведаць матрыцу.


Прыйшоў час здаваць бутэлькі
Каб увайсьці ў матрыцу, глынi во гэта


Пункт прыёму шклатары
Глядзі, Нэо, гэтага ўсяго не існуе. Гэта міраж


Гэта Сайфэр. Яны ў матрыцы.
Але нашы героі ня ведалі, што ў лягеры супраціву ёсьць стукач, які рэгулярна зьлівае інфармацыю ў аддзел продажаў заводу «Крышталь».


А што значыць быць выбраным?
Гэта значыць, што ты не павінен піць бырла


Прыкаліся, дзжаваю. Я толькі што выпіў шклянку, а яна зноў поўная.
Гэта збой у матрыцы. Яна перазагружаецца. Нас застукалі!


І сапраўды. Матрыца вылічыла месца знаходжаньня Нэо і Марфэуса


Эй, рэбята, трэцімі будзеце?
Ды не, дзякуй, мы ўчора нешта перабралі


Нам трэба безалкагольная лінія, каб выйсьці з матрыцы
Перакрыйце ўсе выхады з матрыцы


Аднак Марфэуса ўжо чакала засада.


Хлапец, ты хто?
Аые, е-а- дзед Піхто, ік!
Пасьлязьверскіх катаваньняў алькаголем п'янае цела Марфэуса знайшлі ў парку


Піце, грамадзянін Серабракоў. Вярніцеся ў сваю рэальнасьць
Але Нэо ўступіў у няроўную схватку з агентамі матрыцы


Пі, ты ўсяго толькі адзін мілітар у целе матрыцы


Мне не ўстаўляе вашае чарніла.. Я сапраўды выбраны!


Адбыўся цуд. Нэо парушыў законы матрыцы і ўступіў зь імі ў бой


Ну я і ўжраўся ўчора...
«Я ня ведаю будучыні. Я прыйшоў не для таго, каб сказаць, чым гэта ўсё закончыцца. Я табе скажу лепш, як гэта ўсё пачнецца... Потым я пакажу гэтым людзям сьвет бяз правіл, без кантролю, бязь межаў, сьвет дзе ўсё магчыма. Куды мы пойдзем адтуль, гэта ўжо вырашаць нам...»